Год V. Красавік № 4 (51).

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1933 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. №6

ЗЬМЕСТ № 4:



**Грамадзяне, пасьпяшайцеся з прысылкай падпіскі на „Шлях Моладзі“ за 1933 год, бо ўжо ад гэтага нумару пачынаем часткова ўстрымліваць высылку часопісі ўсім тым, хто дагэтуль не аплаціў за яе падпіску.**

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — A, a. | J, j — Й, й. | R, r — P, p. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — C, c. |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | S, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — K, к. | T, t — T, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — M, м. | V, v — B, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — H, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — X, x. | O, o — O, o. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |


# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр.
„ на паўгода. . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрэс Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 6 — 10

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год V. | Вільня, Красавік 1933 г. | № 4 (51). |
|---|---|---|

## Сьвяткаваньне 15-лецьця Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі і 70-тых угодкаў беларускай прэсы.

25-га сакавіка с. г. беларускае незалежнае грамадзянства ў Зах. Беларусі ўрачыста сьвяткавала 15-тыя ўгодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі і 70-тыя ўгодкі беларускай прэсы. У дзень гэты ў Вільні, а так жа і на правінцыі, дзе толькі пазволілі магчымасьці, былі арганізаваны адпаведныя юбілеям урачыстасьці.

У Вільні сьвяткаваньне гэтых двух юбілеяў ладзіў спэцыяльна сарганізаваны Юбілейны Камітэт, у склад якога ўваходзілі прадстаўнікі ўсіх палітычна-незалежных беларускіх кірункаў, а іменна: С. Паўловіч, Я. Пазьняк, Кс. Ад. Станкевіч, В. Багдановіч, пасол Ф. Ярэміч, адвакат Ф. Стэцкевіч, інжынер Ад. Клімовіч, Р. Шырма, М. Кепель, В. Тумаш і С. Сарока.

Сьвяткаваньне распачалося ўрачыстым набажэнствам у касьцеле сьв. Мікалая, дзе а гадз. 10 р. Кс. Ад. Станкевіч адправіў імшу, а Кс. праф. др. Я. Рэшэць сказаў адпаведнае казаньне. Далей меўся адбыцца малебен у Прачысьценскім Саборы, але з прычыны варожага становішча да беларусаў верхаводзячага праваслаўнага духавенства, зложанага, як ведама, з самых расейцаў, яно не адбылося.

Вечарам, у прыгожа ўдэкараванай беларускімі народнымі бела-чырвона-белымі сьцягамі і партрэтам рэдактара першай беларускай часопісі „Mużyckaje Praudy“ К. Каліноўскага—залі Віленскае літоўскае гімназіі адбылася ўрачыстая акадэмія, на якую сабралася больш 1000 асоб, а такжа прыбылі прадстаўнікі Украінцаў у асобах паслоў др. Д. Левіцкага, др. Загайкевіча, грам. Вахнюка і рэд. Кедрына, Літвіноў — грам. К. Сташыса, Кс. праф. Краўяліса і др. Альсэйкі, і прадстайнікі мяйсцовага польскага і жыдоўскага грамадзянства.

Акадэмію адчыніў грам. С. Паўловіч. Пасьля былі прачытаны два рэфэраты: першы на тэму — „Незалежнасьць Беларусі, як ідэал — задаткам незалежнасьці фактычнай“—

прачытаў студ. С. Сарока, а другі, на тэму: „Кастусь Каліноўскі, „Mużyckaja Prauda“ і ідэя незалежнасьці Беларусі“— прачытаў Кс. Ад. Станкевіч.

Па рэфэратах прадстаўнікі суседніх народаў віталі Беларусаў з народным сьвятам. Першы прамаўляў старшыня Украінскай Парлямэнтарнай Рэпрэзэнтацыі др. Д. Левіцкі, другі — прадстаўнік Літвіноў др. Альсэйка, трэці — прадстаўнік жыдоўскага грамадзянства др. Выгодзкі, пасьля пасол Вахнюк — ад Украінскай Радыкальнай Партыі, рэд. Кедрын—ад украінскіх пісьменьнікаў і журналістаў, др.Выслоух— ад польскага клюбу „Włóczęgów“, а ў канцы — прадстаўнік літоўскіх студэнтаў Краўжліс і прадстаўнікі студэнтаў украінскіх — Крахмалюк і Фэдык. Пры тым былі адчытаны прывітальныя тэлеграмы і пісьмы прысланыя з заграніцы і з краю, паміж іншымі ад Старшыні Рады Беларускае Народнае Рэспублікі В. Захаркі з Прагі Чэскай; ад нямецкіх паслоў польскага Сойму Граэбэ і Розумэка; ад беларускіх арганізацыяў у Чэхаславаччыне, Латвіі, Літве, Нямеччыне, ад беларускай эміграцыі ў Францыі і Амэрыцы, ад беларускіх арганізацыяў у краі, а так-жа ад паасобных беларускіх дзеячоў заграніцай і ў краі.

Па прывітаньнях старшыня Юбілейнага Камітэту выразіў усім прысутным падзяку за ўчасьце ў сьвяткаваньні, а пасьля адбыўся канцэртны аддзел, у часе якога выступаў хор Бел. Студ. Саюзу і былі адсьпяваны беларускі нацыянальны гымн „Не пагаснуць зоркі ў небе“... і беларуская народная марсэльеза — „Ад веку мы спалі“...

---

Апроч усебеларускай юбілейнай акадэміі ў Вільні, адбылася йшчэ таго-ж самага дня акадэмія вучнёўская, арганізаваная Літэратурна-Гістарычным Гуртком Вучняў Беларускай Філіі Дзяржаўнай Гімназіі ім. Ю. Славацкага ў Вільні, у дзень, у залі гэтай-жа гімназіі. Адчыніў яе старшыня гуртка А. Дасюкевіч. Пасьля былі прачытаны два рэфэраты: першы рэфэрат чытаў вучань 6-тай клясы Ч. Найдзюк, на тэму: „Акт 25 сакавіка 1918 г.“, а другі — вучань 8-май клясы Сымановіч, на тэму: „Акт 25.III.1918, як выраз лятуценьняў беларускіх адраджэнцаў“. Пасьля рэфэрату выступаў вучнёўскі хор і дэклямаваны былі беларускія вершы, пераважна Я. Купалы. Закончана акадэмія была адсьпяваньнем беларускае народнае марсэльезы „Ад веку мы спалі“...

Акадэмія гэта, сарганізаваная саматугам вучнямі, адбылася вельмі добра, паважна і рабіла дужа прыемнае ўражаньне.

Дзіўна дзеля гэтага, чаму дырэкцыя гімназіі адносілася да яе так індыфэрэнтна і проста нават варожа, адмаўляючыся даць мінімальную помач. А мы ведаем, што калі пры-

падалі польскія сьвяты, як „Święto morza“, „Rocznica zdobycia niepodległości Polski“, угодкі сьмерці Высьпянскага, імяніны марш. Пілсудзкага і інш., дык дырэкцыя гімназіі ў арганізацыю сьвяткаваньня гэтых сьвят проста цэлую душу ўкладала, выдаючы да гэтага йшчэ спэцыяльныя абеды ці вячэры. Варожасьць дырэкцыі гімназіі да Беларускага Народнага Сьвята выразілася таксама ў забароне для ўсіх вучняў быць на ўсебеларускай Акадэміі, а для вучняў праваслаўных — быць на набажэнстве ў касьцеле сьв. Мікалая.

Усе гэтыя факты гавораць самі за сябе. Маем аднак надзею, што сучаснае проціберускае кіраўніцтва гімназіі не заб'е і ня скрывіць здаровых маладых беларускіх душаў, а наадварот, — загартуе іх і пабудзіць да больш актыўнае працы над выпрацаваньнем стойкасьці за беларускасьць.

---

29-га сакавіка с. г. адбылася ўрачыстая Акадэмія ў чэсьць 15-тых угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі ў Празе Чэскай (Чэхаславаччына). Акадэмію гэту арганізавалі: Беларуская Рада ў Празе і Аб'яднаньне Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў. Адчыніў-жа Акадэмію Старшыня Рады Беларускае Народнае Рэспублікі В. Захарка, які ў прамове сваей выказаў сучаснае цяжкое палажэньне Беларусі і імкненьне беларускага народу да незалежнасьці. Пасьля прамовы грам. В. Захаркі, др. Т. Грыб прачытаў лекцыю аб культурных дасягненьнях беларускага народу за апошнія 15-цаць гадоў.

Па лекцыі др. Грыба віталі Беларусаў з нацыянальным сьвятам прадстаўнікі Украінцаў, Расейцаў і народаў Каўкаскіх. Апроч гэтага было шмат надасланых прывітаньняў ад беларускіх арганізацыяў з краю і з заграніцы, а так-жа ад арганізацыяў украінскіх.

---

Сёлетняе сьвяткаваньне 15-тых угодкаў незалежнасьці Беларусі, якое адбылося ўсюды дужа паважна і гулкім рэхам адбілася ў прэсе ня толькі беларускай, але так-жа ўкраінскай, літоўскай і польскай, сьцьвердзіла нам яшчэ раз, што ідэя незалежніцкая разьвіваецца і што перадусім беларуска-украінска-літоўскае сужыцьцё што раз больш зацясьняецца. Сіла наша з году ў год узрастае. А калі так, дык і лепшая будучыня не за гарамі.

Я—к.

# Uzdoŭž — popierak Biełarusi. (3)

(*Krajaznaŭčyja zaciemki*).

## Brasłaŭščyna.

*Nasielniki i ich byt.*

U papiarednich numaroch „Šl. Moł.“ havaryli my ab nasielnikach Brasłaŭščyny niebiełaruskaj narodnaści, a tut pastarajemsia, choć u karotkich ryskach, scharakteryzavać biełarusaŭ hetaha pavietu i ichny byt.

Biełarus Brasłaŭščyny vonkavym vyhladam, rysami antropolohičnymi mała roźnicca ad svaich susiedziaŭ litoŭcaŭ, a badaj susim nia roźnicca ad miascovaha „pachodžańnia“ palakoŭ. Plamionna biełarus Brasłaŭščyny susim pamiašaŭsia z litoŭskim nasialeńniem. Antropolohična adroźnić Brasłaŭskaha biełarusa vielmi trudna: moža tolki adna bolš vyraznaja roźnica ŭ tym, što litoŭcy pieravažna blondyny. Zatoje roźnica psycholohičnaja vyraźniej zarysoŭvujecca. Biełarus Brasłaŭščyny, jak i kožny ŭschodni słavianin, ščyry, adkryty, haścinny, dabradušny, łahodny, davoli panury (heta specyjalna charakternaja ryska biełarusa), spraviadlivy; reč zrazumiełaja, što jość vyniatki z błahimi nachiłami, ale hetyja vyniatki nie charakteryzujuć całaści.—Zatoje litoviec—skryty, maŭklivy, kali apyniecca siarod čužych, mienš haścinny, niedavierčyvy, pracavity, skupavaty, skłonny da bahaćcia, aščadny, što i materyjalizuje jaho. Litoŭcy davoli pradpryjemčyja, nadstojčyvyja, uporystyja. Kali što pastanović, to starajecca dapiać svajho, stul i pahavorka, što „uporysty, jak litoviec“. Dziakujučy svajej stanoŭčaści, pracavitaści i vytryvałaści litoŭcy chutčej čym biełarusy zmahli bahacieć, nabyvać ziemli, imknucca da navuki, da narodnaha ŭśviedamleńnia. Jany raniej čym my zmahli adukavać bolš svajej intelihiencyi, asabliva ksiandzoŭ. Voś takija ksiandzy, vychodziačyja z narodnych litoŭskich huščaŭ, trymalisia svajho narodu, svajej vioski, svaich narodnych tradycyjaŭ, pačali budzić narod z viekavoha snu da nacyjanalnaj śviedamaści.

Z našaj biełaruskaj miascovaj intelihiencyjaj sprava pradstaŭlałasia horš. Pravasłaŭnyja biełarusy, vychodziačyja z vioski, dziakujučy maskoŭskaj škole, chutka rusyfikavalisia, a kataliki, dziakujučy čužomu duchavienstvu i spolonizavanym dvarom — polonizavalisia. Takim čynam naša vioska ŭściaž astavałasia biez svajej intelihiencyi, kinutaja na pastvu losu. Ale my ničoha nia tracili, apračа henych renehataŭ; narodnyja našy biełaruskija tradycyi, hłybaka zakaraniŭšysia ŭ dušach, zaŭsiody astalisia z nami. Movu našu biełaruskuju nikoli my nie pakinuli, hutaryli jej zaŭsiody i ŭsiudy; žyli i žyviom narod-

nymi zvyčajami, jakija dla našaha ŭnutranaha žyćcia astalisia zakonami pisanymi ŭ sercach i pieradavanymi vusna — žyćciom samym z pakaleńnia ŭ pakaleńnie. Zakony i prava, pryniesienyja čužyncami, źjaŭlajucca dla nas zakonami farmalnymi, miortvymi, vonkavymi, niamajučymi ničoha supolnaha z našym unutranym žyćciom.

Ale našy zakony pryrodnyja, tradycyjnyja zaŭsiody źjaŭlajucca dla nas śviatymi, nieparušnymi, jakija treba vykonyvać sumlenna. Daśledčyki historyi zvyčajovaha prava šmat znojduć u našych tradycyjach niazvyčajna cennaha materyjału. Bo heta-ž zvyčajovaje prava rehuluje ŭnutranaje, vonkavaje i siamiejnaje žyćcio biełarusa — brasłaŭčuka. Brasłaŭščyna tym cikavaja dla daśledčykaŭ kyltury duchovaj ludovaj, čym i Paleśsie. Brasłaŭščyna ŭ hetym vypadku vielmi „konservatyŭnaja“, nijakaja školnaja i carkoŭna-kaścielnaja „cyvilizacyja“ dasiul nia zdoleli vykaranić narodnych zvyčajaŭ, narodnych „sujevieryjaŭ“. Tut siamiejnyja, hadavyja i bytavyja abrady hłybaka zakaranilisia ŭ dušy biełarusa. I dziŭna — hetyja „zababony“ nie pieraškadžajuć biełarusu, litoŭcu, staravieru, palaku, być vierujučym chryścijaninam. Jon vykonyvaje relihijnyja praktyki ščyra i z nabožnaściu ŭ kaściele ci ŭ carkvie, ale adnačasna doma ci ŭ poli vykonyvaje jon i svaje pradziedaŭskija praktyki — z hłybokim mistycyzmam.

Hetyja dva elementy brasłaŭčuk u svaim paniaćci suładna hodzić, adno druhomu nie pieraškadžaje, adno poruč druhoha vykonyvajecca, nia ŭnosiačy nijakaha dysonansu duchovaha. Psujuć hetuju harmoniju paniaćciaŭ biełarusa ŭpłyvy „cyvilizacyi“, jakija biazmysna topčać usio isnujučaje, ale ničoha nia prynosiać z saboj, nie pakidajuć nijakaj novaj całaści paniaćciaŭ, nijakaha źmiestu. Takim čynam brasłaŭčuk sa „skarbnicy“ čužoj „cyvilizacyi“ prymaje tolki toje, što dapaŭniaje jaho pryrodnuju viedu, a ŭsio inšaje da jaho tak prystaje, jak haroch da ściany.

Z vyšej skazanaha moža vyhladała-b, što brasłaŭčuk konservatyŭny i dziki, abo nia zdolny razumieć ničoha. Nie, jon zdolny, jon maje dobruju intuiciju (pračuvańnie), jon filozaf, mastak, inžynier, palityk,—ale pasvojemu; i na ŭsio reahuje jon, i ŭsio prymaje, i ŭsim zachoplivajecca, što tolki pływie z našych naturalnych žarołaŭ. Jaho dziŭnaja natura — jana ŭporysta baronicca pierad čužackimi ŭpływami, a dokazam tryvałkaści i samaabarony jość zachavańnie svaich charakternych biełaruskich rysaŭ. Hlańma, jakija tut bušujuć skryžavańni roznych čužych upływaŭ: polskija, maskoŭskija, litoŭskija i inš., a brasłaŭčuk, mima ŭsiaho, nia tracić svaich asablivaściaŭ, a naadvarot — jon asymiluje inšych, rasšyraje svaje asablivaści.

U časy suśvietnych padziejaŭ, u časy narodnych prabudžeńniaŭ, u časy narodnaha biełaruskaha ŭśviedamleńnia bra-

słaŭčuk byŭ pieradavym žaŭnieram. Hod 1917-ty mocnym recham adhuknuŭsia u Brasłaŭščynie: jak tresnuli akovy paniavolenych narodaŭ, jak pavaliŭsia carski tron, Brasłaŭščyna volna ŭzdychnuła, jak narod 100 prac. śviadomy i adrazu zažadaŭ naležnych sabie narodnych pravoŭ. Zažadaŭ rodnaj movy ŭ śviatyniach, zažadaŭ rodnaj škoły, rodnaj knižki, svajej hazety i h. d. Bačym, jak toj „konservatyzm" źnik. Tak, brasłaŭčuk nia dziki, nie konservatyŭny, ale jon žadaje svajho rodnaha, svajej rodnaj kultury, svajej cyvilizacyi, na ŭsio čužoje jon tolki hłuch i niem.

Kali chodzić ab aktyŭnaść u narodnych biełaruskich intaresach — Brasłaŭščyna ad pačatku narodnaha prabudžeńnia i da siańnia była i jość pieradavoj častkaj Zachodniaj Biełarusi. Da taho času, pakul pan Hrabski nie pryłažyŭ svaju „archirejskuju ručku", u Brasłaŭščynie isnavali cełyja dziesiatki biełaruskich pačatkavych školaŭ. A taksama, pakul nia pryjechaŭ z Łomžy ŭ Wilniu arcybiskup Jałbžykoŭski, mova biełaruskaja i litoŭskaja krasavali ŭ kaściołach Brasłaŭščyny. A ci-ž vybary ŭ Polski Sojm nia śviedčać ab śviadomaści i aktyŭnaści brasłaŭčuka?! — Hledziačy na brasłaŭčuka duša z radaści ciešycca i čałaviek mimavoli stajecca optymistam i vieryć ŭ lepšuju budučyniu našaha narodu; ale i płakać chočycca, kali bačyš, jak jon ciarpić moralna i materyjalna

*Jakub Brasłaŭski.*

# Z ziamielnych nietraŭ.

## Hlina.

Hlina z vyhladu susim padobnaja da piasku, tolki ziarniaty (pył) jaje drabniejšyja.

U pryrodzie hlina vystupaje ŭ roznarodnych kolerach: žoŭty, šery biełyя. Praŭdzivaja hlina maje koler biełу i służyć da vyrabu parcelany. Hlina, jakaja składajecca z bujniejšych ziarniatak, służyć da vyrabu fajansu, z jaje vyrablajuć zvyčajnyja talerki, spodki, filižanki. Horšy sort hliny idzie na vyrab roznych harškoŭ, zbanoŭ, dachovak i cehły. Cehły vyrablajuć roznaha sortu i formy: cehła zvyčajnaja maje formy prastakutnika i służa da muravańnia piečaŭ, muroŭ i da h. p.; da studniaŭ i katłoŭ vyrablajuć specyjalnyja cehły kryvyja, da brukoŭ — časam kruhłyja. Apošnim časam pačali vyrablać z cehły dreny — h. zn. trubki bolš-mienš 30 cm. daŭžyni, jakija służać dla asušańnia vilhotnych ziemlaŭ (melioracyi).

Z hliny taksama vyrablajuć lulki, ale da hetaha patrebna nadta čystaja i dalikatnaja hlina. — Hetyja ŭsie rečy spačatku vyleplivajuć z syroj vymiešanaj hliny, a paśla sušać na pavietry i ŭreščie palać u piečach. Adnak-ža čystaja hlina pry vysychańni łopaje. Dziela hetaha, kab vyrablenyja z hliny rečy lepiej trymalisia, treba da hliny dadać trochi piasku. Aprača taho hlina słuža jšče da vybirańnia tłustych plamaŭ z sukna.

Hrunty, jakija majuć mnoha hliny, nazyvajucca tłustyja, ciažkija. Hlina nie prapuskaje vady, ale zatrymoŭvuje jaje ŭ sabie i dziela hetaha hrunty hliniastyja, choć ciažejšyja da abrablańnia, ale zatoje lepiej uradžajnyja, jak piaščystyja, bo nie dapuskajuć da vypałaskivańnia hnojnaj siły. Adnak-ža čystaja hlina pad haspadarčaje pole taksama nie nadajecca, bo padčas vilhaci doŭha nia vysychaje, a padčas sušy mocna zasychaje i ćviardzieje. Najlepšy taki hrunt, kali na 2 ci 3 častki hliny prypadaje 1 častka piasku.—Kali-ž pad hlebaj znachodziacca płasty hliny, dyk daždžavaja vada, prachodziačy praz vierchni płast, napatykajecca na hetu hlinu i dalej nie prachodzie, a źbirajecca ŭ nižejšych miajscoch i abo ich zatoplivaje (vaziory), abo vybivajecca na vierch u formie bolšych ci mienšych krynicaŭ, dajučy hetak pačatak ruččom i rečkam.

Drobnyja ziarniatki hliny z vadoj rečak unosiacca až u mora i akijany. Tam jany z časam asiadajuć na dno i pad vializarnym naciskam vady źbivajucca ŭ ćviordyja, jak kamień, płasty, katoryja adnak majuć toje svojstva, što dajucca ščapicca (łupicca) na vielmi cieńkija listočki. Z hetkaj skamianieliny drobnych ziarniatak hliny, časta z damieškaj vapny i vuhla, vyrablajuć hetak zvanyja hryfielnyja doški i samyja hryfli, katorymi da niadaŭna jšče vučylisia dzieci ŭ škole pisać.

Voś mały pokaz taho, čaho varta hlina, jakoj šmat u nas jość i ab jakoj my hetak mała časam viedajem.

Š.



# Літэратурны аддзел.

* * *

Вясна ідзе...
            бяз слоў, нямая, —
Лунала іншаю яна...
Віхор на полі йшчэ гуляе,
Сьляза на шыбах замярзае,—
Йшчэ валадарства цемры, сна...

Чакалі мы...
            чакаць даволі —
Нам трэ' ўзварушыць царства сна!...
...І,
      як калісьці,
            сонца волі
На небасхіле лепшай долі
Загляне зноў Вясна!...

Ч. Б.

## ВЯСНА.

Столькі дрэваў і кветак расьцьвіўшых,
Столькі сонца праменьняў радосных;
А навокал шмат сэрцаў самлеўшых,
Шмат няволі і зьдзекаў нязносных.

Гэй, вясна! Ты стрымай свае кветкі —
Не давай ім цьвісьці, красавацца —
Калі нашы ў няволі палеткі,
Калі змушаны гірсе паддацца.

Ул. Казлоўшчык.

* * *

Жыць — гэта ўмершых пачуцьці ўскрашаць
І ходам нязначным да іх прыбліжацца,
Жыць — то умела задачу рашаць,
Жыць — гэта з трывогаю стала змагацца.

Ўмярці — гэта значыць ўжо болей ня быць —
На часткі ў прыроду назад разлажыцца,
Ўмярці — гэта працу жыцьця адлажыць,
Ўмярці — гэта духам сваім адрадзіцца.

1933 г.

Я. Вількоўшчык.

## ВЯСНА.

Зіма нудная праходзіць,
Ўжо мінуў і Сакавік;
Вясна радасна прыходзіць,
Сустракае Красавік.

Дзень ўсё болей прыбывае,
Сонца грэе ўсё ляпей;
Сьнег чарнее, гіне тае,
Ўсяму дышыцца вальней!

Ў рэках кранулiся лёды;
Адна адну крыга прэць;
Ўсюды блішчуць, шумяць воды,
Проста люба паглядзець!

Зямля тварык свой адкрыла,
Сонца з высака глядзіць;
Песьня жаваранка міла
Там, у небе аж зьвініць.

Прылятаюць да нас птушкі
І вітаюць нас вясной,
Аджываюць ўсякі мушкі,
Ветрык вее цеплатой.

Дождждык дробненькі прай-
[шоўшы
Ўсе расьціны ажывіў,
На лугох ужо абсохшых,
Ад сну траўку пабудзіў.

Гаруць ў полі, барануюць,
Сеюць збожжа ярыны,
Буслы дом сабе будуюць,
На суку тапаліны.

Апранулісь ў лісьцё дрэвы,
Зеляннеюць—лес, сады,
А за імі лугі, нівы
І гаёчак малады.

Пасьля доўгага спакою
Зноў пачаў ражок гудзець,
Зноў скацінка чарадою,
Вун на пасьбішча ідзець.

Ўсюды песьні птушак льюцца
Сады хораша цьвітуць;
Ўсюды кветкі, пчолкі ўюцца,
Сок салодзенькі бяруць.

Ўсё расьце, ўсё весяліцца,
Вясна—мілая пара!
А як хмара надарыцца,
Дождждык лінець як з вядра.

Пышны Май. Красуе збожжа,
Грэчкі, кветкі пахацяць,
Ніва лосьніцца прыгожа,
Цэлы дзень мушкі жужжаць.

У лесе птушак размавітых,
Сьпевы льюцца ў разгалос;
На лугох у зелень крытых,
Траўка сьпеець пад пакос.

Няпрыметна дні зьбягаюць:
Надыйшоў вясны адход;
Дзяцей з школаў распускаюць'
Зачыніўся школьны год.

Да дваццатага прыходзіць
Трэці месячык Чарвень:
Вясна пышная праходзіць
Ў найдаўжэйшы ясны дзень.

**А. Жук.**

* * *

Сьцены! Я вас праславіць
Хачу у песьні ціхай —
Над кожнай цэглай дзіравай
Жывы чалавек-жа дыхаў!
Я такі малы, няпрыметны,
Гляджу на вашыя высі.
Здаецца, на дахах гэтых
Хмары цяжкія зьвісьлі.
У шэрых вулках я чую
Сьляды часоў калішніх...

Дзе бачу краму старую —
Мо' елі паненкі вішні?...
Як гэта дзіўна страшэнна —
І нас усіх час забудзе!
Вы толькі скажаце, сьцены,
Што жылі тут калісьці людзі.
1933. **Хведар Ільляшэвіч.**

## ПРАЛЕСКІ.
(З паэмы «Крыжачка).

Вясна паход свой пачынала
Дыхнуўшы цёплымі вятрамі,
З палёў сьнягі ужо сагнэла
І тыя зьбеглі ручайкамі.
Зэфір зямлю ласкаў парой
І пару—вільгаць упіваў,
Чароўнай, сьвежай сінатой
Блакіт на небе адбіваў.
Ў прасторах лёгкіх і высокіх
Віселі жаўранкі, пяялі,
З краёў вярнуўшыся далёкіх
Буслы на стрэхах клекаталі.
Рунеўшы рунь піла расу,
На дрэвах пукалі пучкі
І, сустракаючы вясну,
Пралескі выйшлі з-пад зямлі.
Радкамі стаўшы, багавеюць,
І ветла ў неба пазіраюць,
І нешта шэпчуць, што умеюць,
Яе, вясну, багаслаўляюць.
О, як шчасьлівыя яны!
О, колькі радасьці у іх!
Хто-ж першы стрэў пару вясны,
Акром пралесачак малых?!
Яны ёй першыя злажылі:
І першы шопат-пацалункі,
І першу радасьць вольнай хвілі
І мроі першыя і думкі.
Сваё ўсё першае у дар
Вясьне пралескі аддалі —
Усё злажылі на аўтар
Багіні цуднае пары!...
Шчасьлівы той у нашым родзе,
Хто першы выйдзе на спатканьне
Тае вясны, калі ў народзе
Парвецца ўціску панаваньне.
**Улад-Ініцкі.**

# Хрыстос Ускрос!

*Хрыстос Ускрос! Шпакі пяюць,*
*Ужо прабудзіліся дубровы,*
*У сьнягох руччы бягуць і рвуць*
*Зімы сталёвыя аковы.*
*А цёмны лес абвесіў нос:*
*Ня верыць шчасьцю прабуджэньня,*
*Збудзісь! Пяі гымн ускрасеньня!*
*Хрыстос Ускрос!*

*Хрыстос Ускрос! Прышла вясна.*
*Хай прападзе бяда й няшчасьце,*
*Хай Беларусь устане з сна*
*І запануе ўсюды шчасьце!*
*Ручай аковы свае зьнёс,*
*Зьвініць нам песьня ускрасеньня,*
*Каханьня, шчасьця прабачэньня —*
*Хрыстос Ускрос!*

*А. БЯРОЗКА*

# Чырвоныя яечкі.

У вялікую пятніцу паміж дзяцьмі вёскі Беняўцы панавала нябывалае ажыўленьне. Зьбіраліся яны кучкамі, асобна хлапцы, асобна дзяўчаткі, аб нечым шапталіся, радзіліся.

У адных і ў другіх быў адзін клопат, выбар і хварбаваньне вялікодных яечак. Дзяўчынкі рупна і паважна радзіліся аб тым, як пахварбаваць яечкі прыгожа і танна ня купляючы хварбаў? —

— Я, — кажа— Настулька, прыгатавала шмат лускі ад цыбулі і пахварбую сабе яечак ў некалькі адценкаў. Насамперш палажу ў ваду крыху лускі—яечкі будуць сьветла-жоўтыя, тады ўсыплю лускі яшчэ — яечкі будуць цямнейшыя, а як у канцы палажу лускі шмат, то выйдуць цёмна-цёмна каштанавыя.

Праўда, праўда — патаківалі таварышкі, гэта будзе добра.

— А я, умяшалася Стэфка, пахварбую на цытрынова-жоўтыя ў маладой крапіўцы.

— На сьветла-жоўты і ў жытняй муцы хварбаваць можна,—сказала Марыся.

— І ў ялаўцы—дадала Юзя.

— А я, буду яшчэ рабіць чорныя пісанкі — хвалілася вялікая Ганка. Намалюю воскам ўзоры, а тады буду варыць яечкі ў адвары з дубовай, альховай і бярозавай кары. Пабачыце, якія будуць прыгожыя.

— А чым пахварбуем яечкі на чырвоны колер?—запыталася маленькая Галя?— Чырвоныя яечкі найвесялейшыя.

— На гэта нічога ня прыдумаем, трэба купіць хварбы...

— Ведаеце дзяўчаткі, як зробім — перабіла Настуля, зложымся па пару грошы, купім чырвонай хварбы і разам будзем хварбаваць: так таней нам абойдзецца.

— Добра, добра! закрычалі таварышкі, зараз зложым грошы, а ты купіш заўтра ў мястэчку хварбы і ў цябе будзем хварбаваць.—

— Згода, а цяпер няхай кожная ідзе да мамы па яйкі.

— Чакайце, дзяўчаткі, падыйдзем да хлапцоў, чаго яны так крычаць?— У групе хлапцоў было голасна і весела. Іх мала абыходзіла, якога колеру будуць яйкі, галоўнае каб былі моцныя і добра качаліся." — Дзеля гэтага кожны загадзя павыбіраў ў сваей маткі яек моцных і з вострымі канцамі. Цяпер яны „мацавалі" іх аб зубы і хваліліся ў каго ёсьць катуны.

Надыйшлі і дзяўчаткі. Стала яшчэ весялей і галасьней.

Толькі двое дзяцей: малая шасьцігадовая Маня і крыху большы за яе Юзюк трымаліся з далёк і ня прыймалі ўдзелу ў агульным ажыўленьні. — Яны былі сіроткі, жылі са старэнькай бабулькай „на куце" ў аднаго гаспадара, бабулька зарабляла, як магла і карміла сваіх ўнукаў, але аб такой рэчы, як вялікодныя яечкі, яны і думаць не маглі.

— Чуеш, шаптала Маня, яны будуць мець чырвоныя яечкі: як бы я хацела мець хоць адно, хоць маленечкае...

— А я бы хацеў мець адно ды моцнае, моцнае! Восьбы пабіў шмат яек: і табе даў-бы... адшапнуў ей брат.

— Як раз у той час глянула на іх Настулька. Чуткае сэрца дзяўчынкі зразумела гора маленькіх сіротак і яна на хвілінку сумна задумалася. Але хутка ажывілася, вочкі радасна заблішчэлі і яна пашаптаўшысь з сваей найлепшай таварышкай Ганкай, крыкнула.

— Сьціхніце дзеці, я вам нешта скажу.

— Настулю ўсе любілі, дзеля гэтага зараз прыціхлі і дзеці зьбіліся цесным кружком каля яе.

— Яна ціханька пачала ім нешта казаць, мусіць пераконваючы, бо дзеці толькі ківалі галоўкамі і паўтаралі: добра, добра...

— Пасьля зараз разыйшліся кінуўшы, т. лькі ўсьмешку і нейкі дзіўны таемны пагляд на двое сіротак.

—о—

На заўтра дзяўчынкі ад самай раніцы хварбавалі яечкі свае і тыя, што ім прыносілі хлапцы, але гатовых не паказывалі нікому, ня мелі часу хваліцца сваей работай, гэтую прыемнасьць астаўлялі на Вялікдзень. — Толькі над вечар сабраліся дзеці каля Настулінай хаты і радасна—таёмныя напоўнілі маленькі кошычак, высланы зялёным мохам, living рознымі яечкамі і жоўтымі і каштановымі і чорнымі і моцнымі", а чырвоных-чырвоных было аж пяць! — Быў гэта гасьцінец ад добрых дзетак для малых сіротак. . Ў дзень Вялікадня — Маня і Юзюк ня верылі свайму шчасьцю: мелі так шмат, так шмат яечак. „І чырвоныя, чырвоныя!..“ захоплівалася Маня.

— А дзеці? Ніколі ня было ім так весела і так радасна, як цяпер, гледзячы на шчасьлівыя тварыкі сіротак.

**Л. Войцікава.**

## Chto ty hetki?

*Vierš Janki Kupały.*

Chto ty hetki?
— Svoj, tutejšy.
Čaho chočaš?
— Doli lepšaj.
Jakoj doli?
— Chleba, soli.
A što bolej?
— Ziamli, voli.
Dzie radziŭsia?
— Ŭ svajej vioscy.
Dzie chryściŭsia?
— Pry darožcy.
Čym aśviencan?
— Kroŭju, potam.
Čym być chočaš?
— Nia być skotam...

В. Манасена.

# Чаму сончыкі цьвітуць раней за ўсю траву.

У кожнай красачкі, як і ў кожнага дзіцяці, ёсьць свая родная маці; толькі ў адных сончыкаў яе нямашака, а ёсьць злая мачыха. Родныя маткі не варушацца—рана вясной выпраўляць з зямлі красачкі.

— Яшчэ рана, мілае дзіцятка — кажа кожная сваей красачцы. — Не варушыся, яшчэ сьцюдзена, яшчэ цяжкія росы на зямлі: прастудзішся, расчахрыць вецер галоўку, пачакай крыху, — так гавораць родныя маткі; бо кожная шкадуе сваё дзіця. А сончыкаў пажалець няма каму. Мачыха толькі і думае аб тым, як-бы хутчэй прагнаць з воч нямілае дзіця.

І вось, ледзь толькі стаяў сьнег, ледзь пачала абсыхаць зямелька, узялася выганяць злая мачыха сончыкі з зямлі. — Сон, сон, ідзі вон, усе краскі ўжо цьвітуць, няма аднаго цябе.

А сончык — мачыхі дзіця спакойнае і паслухмянае. Як пачуў загад, заварушыўся, пачаў тоўхаць галоўкай зямлю, пачаў выбірацца наверх.

Выбраўся сончык з-пад зямлі, пачаў аглядацца наўкола. Мачыха казала, што ўсе краскі расцьвілі,—але дзеж яны? Штось ня відаць. Ён адзін. А ў лагчыне сьнег астаўся, яшчэ сьцюжай ад яго так і нясе.

Пахіліў галоўку на бок і задрамаў сіротка. Дрэміць сончык і раптам чуе штось зашуршэла. Сончык падняў галоўку. Бачыць — жоўтыя казялкі лезуць з зямлі, а за імі мядоўкі, а за мядоўкамі ліліёвыя сінцы.

— Вітайце, таварышы — голасна і вясёла крыкнуў сончык краскам— а я даўно вас чакаю. Абрадаваліся краскі, што іх чакаюць, што ласкавым словам вітаюць, што яны не адны і так весела заківалі галоўкамі, што сончык пастанавіў заўсёды вылазіць з зямлі па загаду мачыхі.

— Нічога, што крыху памерзну, нічога, што сумна і жутка аднаму; чужая радасьць, быццам чырвонае сонейка — і развесяліць ї абагрэе. А каб ня вылез я першы, не пасумаваў і не памерз — і радасьці гэтай не дачакаўся-б.

Вось чаму цьвітуць сончыкі раней за ўсе краскі.

З расейскага пералажыў **М. Машара.**

# Да нас пішуць.

## КАРА ЗА СВАЁ РОДНАЕ.

**в. Конна каля Зэльвы.** Апошнім часам у нас даволі энэргічна разьвіваецца агітацыя розных інструктараў з „Колаў Млодзежы Вейскей“. Гэтыя агітатары, закладаючы свае „колы“ зараз-жа стараюцца вынесьці пастанову, каб у коле ўжываць толькі польскую мову і польскія абычаі, а выракацца сваіх родных, беларускіх. Пастанова гэтая пасьля забясьпечваецца рознымі карамі.

З гэтага вынікае, што калі наш тутэйшы беларускі малады хлапец і дзяўчына ў сваім краі будзе гаварыць пабеларуску, дык будзе мусіць плаціць за гэта штраф. Гэтыя проста скандалічныя пастановы накідваюць нібыта „самахоць“ чужую мову і абычаі, а гэтым самым вядзецца фармальнае вынарадаўляньне беларусаў.

Бязумоўна, кожны беларус, які жадае для сябе дабра, шануе свой край, свой народ, сваю мову і абычаі, павінен ад гэтага „кола“ здалёку ўцякаць, або з ім змагацца. Найлягчэй-жа будзе змагацца арганізавана і дзеля гэтага сьведамая беларуская моладзь павінна зараз-жа закладаць там гурткі беларускіх культурных арганізацыяў, напрыклад: Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. Маючы сваю арганізацыю можна шмат дабра зрабіць для свайго народу і для свае Бацькаўшчыны і палепшыць свой быт.

Трэба ведаць, што абяцанкі інструктароў „Колаў Млодзежы Вейскей“ астануцца абяцанкамі-цацанкамі... — дагэтуль яны нам нічога не прынясьлі добрага і далей не прынясуць. Мяняць сваю беларускую мову, свае беларускія абычаі на польскія, мы ня маем патрэбы, бо яны ні чуць ня лепшыя ад нашых і гэта нам нічога ня дасьць, а прыносе нацыянальную сьмерць. **А. Ш.**

## PRACUJMA NA KARYŚĆ SVAJHO NARODU.

**Opsa,** Brasłaŭski pav. Jak usiudy, tak i ŭ našym miastečku isnujuć polskija arhanizacyi, jak „Stowarzyszenie Młodzieży Polskiej“, „Strzelec“ i inš., katorych zakładčykami źjaŭlajucca polskija ksiandzy, vučyciali i im. p. Moładź, praŭda, nia nadta hornicca da ich, viedajučy, što jany dla nas nie niasuć dabra, ale škodu. Adnak jość adzinki, katoryja, ci to kab adroźnicca ad inšych, ci prosta praz niaśviedamaść zapisalisia da hetych arhanizacyjaŭ, dy jašče i druhich da hetaha nahavarvajuć.

Ja-by radziŭ usiej našaj zbłudziŭšaj moładzi nie nahavarvać nikoha da zapisvańnia ŭ hetyja arhanizacyi i nie pakazvać hetym svajho tupoha rozumu. Bo ŭsim dobra viedama, chto kiruje „Stowarzyszeniem“, „Strzelcem“ i „Kołami Mło-

dziežy Viejskiej" i čaho jany chočuć. Idučy za imi ničoha nie zdabudziem, a stracim svajo narodnaje abličča i pierastaniem žyć. Dyk lepš arhanizujmasia i zakładajma svaje biełaruskija arhanizacyi i prystupajma pamału, planova, samastojna da pracy nad palepšańniem svajho štodziennaha žyćcia. Davoli hulać z „rogatywkami", a treba pracavać nad palepšańniem svajho bytu.

**Lavon Žalejka.**

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

**Справа абходжаньня паліцыі з вучнямі беларускай наваградзкай гімназіі перадана ў суд.** Прэзыдыюм Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні 7 г. м. перадаў у Віленскі Апэляцыйны Суд справу аб недапушчальных спосабах абходжаньня Наваградзкай паліцыі з вучнямі мясцовай беларускай гімназіі, пры арыштоўваньні іх і допытах.

**Вечар беларускіх паэтаў Зах. Беларусі.** Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы пры віленскім унівэрсытэце ладзіць 7-га траўня с. г. у V тай залі галоўнага будынку ўнівэрсытэту Вечар беларускіх паэтаў Заходняй Беларусі, на якім будуць прадэклямаваныя творы, спэцыяльна падгатованыя для гэтага вечару, наступных паэтаў: Наталіі Арсеньневай, Я. Быліны, Хв. Ільляшэвіча, М. Машары, Я. Вількоўшчыка і М. Васілька. Уступное слова аб беларускай літэратуры скажа грам. Ст. Станкевіч. Пачатак вечару а гадз. 17. Уваход вольны.

**Беларускі Краязнаўчы вечар у Наваградку.** 2 г. м. стараньнем Школьнага Краязнаўчага Гуртка Беларускае Гімназіі ў Наваградку быў наладжаны краязнаўчы вечар, у праграму якога ўваходзіла лекцыя вучыцеля Сланеўскага аб імкненьнях і асягненьнях на ніве краязнаўчай працы ў розных народаў у гістарычным разьвіцьці і аб спосабах працы у гэтым кірунку ў сучаснасьці. Пасьля пастаўлена была п'еса „На вёсцы," якую ўдала адыгралі артысты-аматары вучні. Вечар пачаў уступным словам аб значэньні краязнаўчай працы вучань Пляскач, а закончыў—школьны хор пад кіраўніцтвам грам. Валынчыка, які стройна выканаў цэлы рад беларускіх народных песьняў.—Каб-жа ды больш гэткіх вечароў, ды ня толькі ў Наваградзкай бел. гімназіі але і ў Віленскай.

**З выдавецкае нівы.** Апошнім часам вышлі з друку

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНА ЯКАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і М. Пяцюкевіч.*

**Рэдактар Язэп Найдзюк.** **Выдавец Янка Багдановіч.**

і паступілі ў прадажу наступныя новыя беларускія кніжкі: 1. „Для бліжніх“ — сцэнічная п'еса, драма з коопэратыўнага жыцьця Я. Косаўскага, вельмі прыгодная для пастаноўкі у вясковых аматарскіх тэатрах, выд. «Самапомачы“. Кніжка гэта выйшла, як № 2 Беларускай Коопэратыўнай Бібліятэкі, абымае 56 бачын і каштуе толькі 40 грашоў.

2. У трохсотыя ўгодкі сьмерці Вялікага Канцлера Льва Сапегі.“ — М. Шкялёнка, адбітка з гадавіка Бел. Нав. Т-ва. Кніжыца мае 30 бачын і каштуе 50 гр. і 3. „Čamu ciapier ciažka žywiecca ziemlarobam“—А. Бароўскага. Выданьне не паданае. Гэта брашурка невялікага фармату, мае 16 бачын і каштуе 10 гр.

**З Б. С. С. Р. Крыху лічбаў.** Апошнім часам некаторыя польскія газэты замясьцілі выняткі з савецкай статыстыкі аб Б.С.С.Р. Вось-жа паводле іх цяпер у Б.С.С.Р. ёсьць 5.000 беларускіх пачаткавых школ і каля 130 тэхнічных. Апроч таго ёсьць многа школ вышэйшых, з якіх на асаблівую ўвагу заслугоўвуюць Беларуская Акадэмія Навук, Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, Вышэйшы Пэдагогічны Інстытут у Менску і Беларуская Земляробская Акадэмія у Горы-Горках.—Анальфабэтызм блізкі да зьліквідаваньня. Беларускіх пэрыёдычных часопісаў у Б.С.С.Р. выходзіць цяпер 25, з іх 6 выходзіць штодзенна, а рэшта—што два дні, што-тыдзень і што-месяц. Выдавецтва беларускіх кніжак і брашураў прадстаўляецца паводле «Летапісі Беларускага Друку» наступна: усіх кніжак і брашураў у Б.С.С.Р. выходзіць сярэдня ў месяц 80 штук, з іх 75 працэнтаў прыпадае на беларускія. Гэтых некалькі лічбаў (мо' ня зусім точных) паказваюць нам, што ўсё-такі беларускае школьніцтва і выдавецтва у Б.С.С.Р. стаіць на высокай ступені. Праўда, усё гэта перапоўнена камуністычнай ідэолёгіяй, але пэўне ж там ёсьць нямала і элемэнтаў нацыянальна-беларускіх, якія бязумоўна для нашай культуры і нашага адраджэньня маюць вялікае значэньне. Аб існаваньні і там здаровых задаткаў жыцьця сьведчаць тыя частыя „чысткі,“ — якія праводзіць Камуністычная Партыя. „Чысткі“ гэтыя аднак нічога не памагаюць, бо нахіл да нацыянальнага жыцьця—гэта зьявішча прыроднае і з ім бароцца неўмагату хоць-бы няведама якой штучнай сіле: а камунізм такой сілай ёсьць.

**БЕЛАРУСЫ Ў ЛІТВЕ. Беларускі зьезд.** 26.II. с. г. ў Коўне, у памешканьні „Беларускай Хаткі“ адбыўся беларускі зьезд, на якім насамперш была прынята справаздача з дзейнасьці Беларускага Культурна-Прасьветнага Таварыства у Літве за першы год існаваньня, выбраны новы ўрад гэтага Т-ва, у які ўвайшлі грам. грам: Якавюк, Матач, Плескачэўская, Радзюк, Дзядовіч і рэвізыйную камісію — Кунаховіч, Міленкевіч, Гайдукевіч. Пасьля гэтага зьезду быў сарганізаваны Беларускі Нацыянальны Камітэт у Літве, у які ўвайшлі: Чэркас, Боеў, Плескачэўская, Якавюк, Матач—як

Przesyłka opłacona ryczałtem.

сябры і Раманэйка, Езайтіс, Саковіч — як кандыдаты. У Рэвізыйную Камісію К-ту выбраныя: Кунаховіч, Шохур, Кошкін — як сябры і Мілінкевіч ды Мотуз — як кантыдаты.

**БЕЛАРУСЫ Ў ЛАТВІІ. З жыцьця Т-ва Беларускае Моладзі ў Латвіі.** Апошнім часам пры Цэнтральным Урадзе Т-ва Бел. Моладзі ў Латвіі дзеля інтэнсыўнейшае і больш пляновае працы сарганізавана спартовая сэкцыя, а так-жа бюро справак і тлумачэньняў. Гэтаксама Урад Т-ва нядаўна таксама адчыніў ў Рызе дзьве беларускія бібліятэкі — чытальні: — першую на Маскоўскім Форштаце, другую — на Чырвонай Дзьвіне.

# Usiačyna.

**Kolki vydana na uzbrajeńnie u 1931 h.** Pavodle statystyčnych padličeńniaŭ u 1931 h. na całym śviecie vydana na ŭzbrajeńnie 39 miljardaŭ 200 miljonaŭ złotych.

**Katastrofa amerykanskaha pavietranaha karabla** U pieršych dniach krasavika s. h. na Atlantyckim akijanie stałasia katastrofa z najbolšym pavietranym karablom amerykanskaj vajennaj floty p. n. „Akron,“ jaki za hadzinu moh pralacieć bolš jak 100 klm. Padčas katastrofy zhinuła bolš 70 čałaviek absłuhi, pamiž jakoj było mnoha vyššych aficeraŭ. Uratavać udałosia usiaho adnaho paručnika. Pryčynaj katastrofy była vialikaja bura.

**6 miljonaŭ niavolnikaŭ.** Katalickaja hazety padajuć, što pamima taho, što niavolnictva aficyjalna Lihaj Narodaŭ skasavana ŭžo 6 hadoŭ tamu nazad, usiož-taki ŭ sučasny mament na usim śviecie naličvajecca da 6 miljonaŭ niavolnikaŭ.

**Pryrost ludziej u Niamieččynie źmianšajecca** Pavodle statystyki, u Niamieččynie ad 1840—1900 h. hadavy pryrost na 1000 žycharoŭ byŭ 36 asob, a ŭ 1931—tolki 16 asob.

**Haza (karasina) na dnie mora.** Savieckaja kamisija, jakaja daśledavała dno Kaśpijskaha mora, dakazyvaje, što na dnie jaho jošć vialikija naftavyja žaroły.

# Наша пошта.

А. Ш — к у. За прысланае шчыра дзякуем. Вершы слабыя і да друку не падходзяць, — пішыце лепш прозай. Карэспандэнцыю, як бачыце, друкуем, прэмію высылаем, і да яе далучым статут і інструкцыю Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, паводле якіх можаце залажыць гурток Інстытуту. Зрабіць-жа гэта ў вашай старонцы вельмі патрэбна. Пастарайцеся!

І. Л — т а р у. Вашы вершы слабаватыя, патрабуюць больш апрацоўкі, пры тым старайцеся чытаць як найбольш беларускіх кніжак.

Н. Б. Ваш верш паправіўшы можна будзе надрукаваць. Радзім Вам прытым пацікавіцца падручнікам стылістыкі, скуль і даведаецеся правілы аб укладаньні вершаў.

M. Biazdolnamu. U vieršy dumka dobraja, ale słabaja technika.

M. Špiku i R. Amieljanoviču. „Šlach Moładzi“ vysyłajem, hrošy prosim słać zvyčajnymi paštovymi pierakzaami na adres redakcyi „Šlachu Moładzi“.